* * *

На ўсе лады
Скуголіць
Нашая планета,
У зайздрасці
Няведама куды
Імчыцца —
Ніхто
На свеце ўжо
Не слухае паэтаў,
І пэўна Ромул
Непатрэбна ссаў
Ваўчыцу.

* * *

Паверыўшы ў паэзіі крыло,
Ў інтымнасць Сафо, элегійнасць Крус,
Агню я аддаю свой груз,
Паверыўшы ў паэзіі крыло.

Лячу я на тваё святло.
Загінула ў ім Сафо, Дэ ля Крус:
Або замяккае было крыло,
Або — зааб'ёмісты быў груз.

## ПАЭЗІЯ

Мілая, ты снішся мне...
А рана ўстану — адно гора:
Вакол непадступны снег,
Вакол маўклівы, шэры горад.

Сядаю моўчкі ля акна
І веру — прыйдзеш да мяне.
Ужо без смеху і віна
І непадступная, як снег...

Прыйшла, сказала: — Я твая,
Я сонца, вецер, слова.
Плыві за мной, я ж твой маяк —
І ў мора груддзю поўнай.

## ДАСПЕЛАЕ СОНЦА

Я іду апусцеўшай вуліцай.
Да плячэй паўднёвае сонца
ад цёплых бяроз лёгка туліцца.
Я іду апусцеўшай вуліцай.

Пад нагамі лісцё шапочацца,
жоўтае, жоўтае бясконца,
цалаваць былое так хочацца,
на плячах паўднёвае сонца.

Сонца да плячэй маіх туліцца,
жоўтае лісцё шапочацца,
цалаваць былое так хочацца —
я іду апусцеўшай вуліцай.

## ВОСЕНЬ — Я — ВЯСНА

надыходзіць пара восені, я хварэю з ёю
і хаджу, як адурманены, з цяжкай галавою,

адлятаюць з мяне думкі, як у вырай птушкі,
і качаю я бярозу, каб яе разгушкаць.

спадзе дадолу лісце жоўтаю травою,
я — не я, а восень, што з ахвотай згноіць

прыгажосць і спеласць ўсіх садоў у вёсцы —
наесца да адказу і не скажа досыць.

будзе зіму ўсю малоць у сваіх жорнах
млосныя адходы, краявіды чорныя,

на таку ляжаць у скомканай саломе,
забыўшы пра Вялікдзень у святочным доме.

а потым уваскрэсне недзе ў канцы мая
цёплай зелянінай — душэўным змаганнем.

## ВЯРТАННЕ

Вада
з крыніц
мацней
ўсялякіх він.
У люстэрка
нахіляюся
напіцца
сілы —
і лезе
цалавацца,
пропадам ты згінь,
чужы мне чалавек,
стаўшы над магілай.

## СВІТАННЕ

У Саскім многа вакханак
чакае ў поўным натхненні,
калі расплюшчацца цені,
на экзальтацыю ранка;
на грымасу каханай,
што назбірала ў жменю
пажоўклых праменняў
апаўшай восені рана.

Чытаюць вершы паэты
сваім засмучаным марам,
вакханкам раздзетым,
чытаюць вершы нядарам —
у парку стаяць сілуэты,
абняўшыся ранні пажарам.

## СНЫ

Цёплая вясна,
ці паверыце маёй дурной маладосці:
я жыву ў снах,
бэз у маім пакоі сардэчным жыве госцем,

кветкі — не знаю,
адкуль прышлі — за сталом сярод ночы
глухой
май выпраўляюць,
спевы да рання, танцы... Мне ж патрэбны
спакой.

Або зоры! Зор
поўнае акно, лезуць па мне, ліжуць ногі,
казачны ўзор
вецер майскі выйгрывае — цесна мне ад
сноў.

Ноч неспакойна
праходзіць. Сплю, як заяц, на мяжы сну
і явы,
і мройна, мройна,
і за акном танцуе вярба кучарава.

## ПАРТЫТУРА

З грацыі кветак музыкай б'е.
Восень на нотах развешана,
блішчыць высока лета бабіна —
шчасце ўстрывожана ўсмешкаю.

Восень топіць увесь агарод —
у водары плюхацца будуць
дыні — у бульбе вярблюды
і парэчкі з чорных парод.

Пад грушамі зноў грушапад,
як быццам заплакалі грушы,
што нельга ім ў полі пагушкаць —
на ключ жываравоў закрыты сад.

І плот, як раяля хрыбет,
ноты сохнуць развешаны
па ўсяму ўзбярэжжу
сада, і з кветак музыкай б'е.

## ВЯСНА

Вясна — гэта радасці бомба
Змайстравана скрыта —
Зімой у катакомбах
З перацвіўшага, перагнітага,

Узгадавана лютым,
Сабрана грошык да гроша.
Як злосць распутана,
Ад шчасця горша...

А потым, сварлівай лужынай,
Сонца сцякае карытам...
І дзень за днём уздужаны
Бяжыць у май сакавіты.

А там ужо толькі асколкі
Разбітай вясны. Руіны
Адцвіўшага бэзу стаяць толькі
І свечкі каштанаў наіўных.

## САМАСУД

Аднак
пакіну я
сваё каханне
на дарозе,
каб нехта
знайшоў яго,
як кашалёк з грашыма,
або
пад грузам
свайго шчасця
растаптаў,
не глянуўшы,
якая там
таіцца сіла.

## МАЙСТЭРНЯ ПАЭТА

Няма ні славы, ні багацця —
адно скрыпучае пяро
тырчыць з чарніліцы рабром
і крыж для новага распяцця.

На сцяне маўклівы Ван-Гог,
са шклянкі лезуць фіялкі,
вярнуўшыся з дарогі, палка
змучана глядзела на парог.

Змяркалася. Рука ляжала,
згорбіўшыся па-старэчы,
а са сцяны спаўзала жаласць
і пагарда насустрэчу.

* * *

Зноў адзінокі —
усё далёкае, бязлікае,
чужое,
як вуліцы і скверы.
Няма ахвоты верыць
у чыстае, вялікае...

Маўклівы дом.
Вярнуліся старыя справы —
іграе цэлы дзень адна пласцінка,
няма нікога у гасцінай
і стынуць вершы,
бы ў талерках стравы.

Вокны насцеж,
насцеж дзверы —
Буду сваю роспач мераць.
Ад пачатку

сам
у сваіх ўспамінах
я шматкроп'ем недзе згіну.

## ІДУ ЛЕСАМ

Іду лесам стройным,
прыгажэйшым ад многіх, многіх людзей
ва ўсім.

Іду, як у мацярынскі дом,
а ён мяне баіцца,
як агню.

Птушказверы ўцякаюць назаўсёды
перада мною —
маўчу ў глыбокай трывозе.

Я ваш брат,
адным мы сэнсам перапоўнены,
на мовах неразумных дагаворымся.

...стынуць сляды —
прырода зненавідзела прыроду.

## ШЧАСЦЕ

Сонца Італіі даецца ў знакі —
губы раскрашаны,
грудзі адкрыты поўны,
гарыць усмешка, нібы факел,
у венецкай мадонны.

Па вуліцы паўзуць гандолы,
у гандолах радасць,
смех у хвалях тоне,
у звычцы штодзённа сваволіць
венецкай мадонны.

Чакаю яе, як чакаюць спаткання,
бачу — плыве
у гірляндах стазвонных...
і — адплыло маё каханне,
венецкая мадонна.

## БЯЗДОМНАСЦЬ

Апала маладосць асенняй завірухай,
За ноч сляды занясло нячутным снегам.
Няма павароту — шчасце лягло пад абухам
У момант, калі зайшлося смехам.

Годы пройдуць, але астанецца горыч
Пры ўспаміне жывой маладосці...
Куды мне ісці — дадолу ці ўгору?
А куды ідуць бяздомныя госці?

## ТРЫВОЖНАЯ РАНІЦА

Тамы музыкальнай
руды па радыё сёння ліліся
ў пакой.
Мой спакой —
у дым
разняслі.
У гадзін восем.

Забыты рок-н-рол —
не мода.
Падаюць на талерцы
джаз,
як быццам лепш
у ваду
ад летняга ўцячы
дажджу.

Развесіў вушы —
хай сохнуць.

І рукі на ложак —
хай спяць.
А ногі?
Ух! Каб яны здохлі!
Рвуцца на падлогу
танцаваць.

Бачу:
то ў гальванічных рухах,
то ў рэўматычным бязмоўі
б'ецца
з арыштанцкім духам
арыштанцкае
здароўе.

## МЫШЫ

бегаюць мышы, бегаюць шэрыя мары,
бегаюць ціха, бегаюць пэўна і яўна,
разносяць і хваляць чужыя тавары
і абмінаюць смяротны таможні.

бегаюць мышы ўздоўж і ўпоперак,
бегаюць жвава, яхідна, тыпова,
бегаюць з дня ў ноч і з ночы ў дзень
па гарызанталі і вертыкалі.

так бегаюць думкі, жыццё так праходзіць —
у гісторыю мора цякуць ручайкі —
таленавітых і шчырых — слёзы,
а подлых, нікчэмных невукаў — гной.

## 1.

Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!
Дзяцінства босае, замурзанае лета,
Святая студня з жураўлём ўспамінаў,
Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах.

Даўно я гэты дзіўны горад кінуў,
Як ўсё, што хочаш ці не хочаш ў Лету.
На сценах памяці вісяць партрэты
Выразных і яскравых сёння ласк матчыных.

Дарога ўсё вышэй, вышэй пад гору...
Назад сыйсці, вярнуцца да пралогу?
Дык мацярынства — як гарачка ў хворага!

Іду сваёй нятоптанай дарогаю
І чую праайчыны ўсюды подых —
Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды.

2.

Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды —
Стыхія рвецца з ланцугоў Няптуна,
На скалы хвалі лезуць, чуючы свабоду,
І скалы ў мора груддзю, просячы ратунку.

І птушкі чарнаморскія з пароды гордых
Носяцца ў дзюбе з сонца ладункам,
У змове з ветрам, наперакор кірункам
Праменнямі падаюць ў бязлюдныя фіёрды.

А я стаю — чужы — у гэтым краі
Здалёк ад бацькаўшчыны і сумую,
І ноч, як пацалунак, на зямлю лягае.

І покуль мора сонца не задуе,
І покуль свет не знойдзе антыпода —
На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу.

3.

На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу,
Каб ўбачыць край Каперніка, Шапэна...
Дзе музыка расце, жывуць не бедна,
І шчасце там, дзе зоры бачаць ноччу.

Аб чым галактыкі астронамам лапочуць
Праз тэлескопы, як праз трубы медныя?
Аб тым, што мы надзвычай бедныя
І ў сусветах бачыць нас не хочуць?..

Як добра зноў вяртацца ў айчыну,
У тую прыстань, дзе няма ні штормаў,
Ні статкаў адплываючых, ні нават

На ўзбярэжжы скрынак паштовых...
На гарызонце горы тоўпяцца кагалам
І бацькаўшчыны згэтуль ўбачыць
немагчыма.

## 4.

І бацькаўшчыны згэтуль ўбачыць
немагчыма
Праз гушчары паўднёвай душнаты.
Узброены ў яе, што думаў Ты,
Ідучы сцежкамі паўценяў Крыма?

Ты ведаў, што табе няма спачынку
Цяпер. І будуць гнаць цябе вятры,
Далей, за горы і за моры тры,
Каб ўжо ніколі не вярнуцца у айчыну.

Як цяжка жыць — радзіма у няволі.
Хутчэй бы споўніць планы — і легіёны
У Польшчу увясці пад гул касцельных
звонаў.

І сэрца ачуняе там ад болю.
І дух паэта рвецца з путаў Крыма,
І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць.

5.

І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць,
Сярод прыроды буйнай і гарэмаў
Жандармы злосна ходзяць надарэмна:
Хоць тут ён, але думкамі ў айчыне.

У яго грудзях няма агню без дыму —
Ён піша — рве з сябе пачаткі і карэнні.
Як вязень свету хоча ў камеры турэмнай,
Так ён пакінуць хоча бераг Крыма.

І ён зайздросціць птушкам, хмарам ў небе...
Хоць духам ўвысі, ногі топчуць травы,
А вочы і кінжалы бачаць і атравы.

А трэба доўга жыць, змагацца трэба
З царскай Расіяй, а з народам ў згодзе —
Ён думкамі на захад ўсё адходзіць.

## 6.

Ён думкамі на захад ўсё адходзіць —
Заосе ўспомнілася, потым Коўна,
Дзе з філаматамі ён зросся кроўна
І ссылка — у дваццаць чацвёртым годзе.

Чароўна небяспечны крымскі поўдзень...
І з поўначы Паэта гоняць зноў,
Ён едзе, суму і натхнення поўны, —
Ах, Пушкін, колькі ж намі пройдзена!

Хвіліны шчасця! Вы, як слёзы мамы,
Калі дзіця вяртаецца дахаты —
Над вамі рукі з благаславеннем ўзняты.

Шчаслівымі бывайце, Чорны воды,
Бушуйце! Я вас нікому не аддам
І мілай Польшчы бярозавы водар.

## 7.

І мілай Польшчы бярозавы водар
Гусцее пад вечар, аж капаюць сокі
У попел зямлі, як па дзядзінцу крокі
Ад поспеху, ці граючы на сходах

Пад ножкамі Марылі. З кожным годам
Дарога да яе цішэй. Пухам лёгкім
Яна была пры ім, слязой ля вока
І хваляй ў цішыні ля парахода.

Пяшчотна спяць ўспаміны аб Марылі.
Ах, Марыля, дзеўка, Польшча гарэзлівая!
Да цябе лячу я дзень у дзень на крылах.

Ты мая рэлігія і мая паэзія,
Ты мне Патоцкая, ты мне Гражына —
Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну.

## 8.

Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну...
З косамі рэк, з грудзьмі азёр, зялёну,
Праклятую богам, на вуснах з праклёнам
Для тых, хто тады яе пакінуў.

Ці вы яе трымалі у далонях,
Сыпучую, пахучую, матчыну,
Кнігу з непрачытанымі загонамі,
Адзіную і непаўторную — айчыну?

Пусцее Крым. Міцкевіч у Парыжы.
На Аю-даг слядоў няма, і мора
Зубамі валуноў скалы крышыць.

Змаркотнеў ў хмарах прыгажун Ай-Петры,
Паэта кліча, каб ізноў у горах
Па яйлах свабодныя гойсалі ветры.

9.

Па яйлах свабодныя гойсаюць ветры.
Па дух чалавечы з высі арлінай
Спаўзаюць над мора, сыходзяць ў даліны,
Узбураць, пачэшуць хвалі дзве, тры

І, грудзі напоўніўшы ветрам сусветным,
Ў прасторах касмічных ракетаю гінуць,
Парваўшы на енкі і свісты паветра
І воду, а травы змяніўшы ў мякіну.

Не гоіцца на сэрцы рана. І з Парыжа
Нашчадкам Ён запаветы піша,
На смерць і жыццё правёўшы бітву з богам.

У Істамбуле халера стаіць ля дарогі,
Цалуе ахвотна, смяротна, нагмінна —
Ёй усё роўна, дзе Крым, дзе айчына.

## 10.

Ім усё роўна, дзе Крым, дзе айчына —
Травам зялёным, горам плячыстым.
Ветры і рэчкі прыходзяць і чысцяць
З слядоў чалавечых іх сцежкі звярыныя.

І мора штодзень гарызонт адчыніць
Блакітны і далёкі, далікатны, чысты,
Каб пад вечар зачыніць на засаў вячысты,
Каб зраўнаць у моры горы і шчыліны.

Я сяджу на скраі цішыні і ночы,
У вачах трымаю хвост начной каметы.
Мо' яна здалёк шчасце мне прарочыць?

Мо' хвіліны праклінаць я буду гэты?
Дзень, як і я, аніяк не хоча
Ні спаць на Рысах, ні спаць на Ай-Петры.

## 11.

Ці спаць на Рысах, ці спаць на Ай-Петры
Ночы ўсё роўна. Чорныя крылы
Змроку ляцяць, як попел на ветры,
Ляцяць на кожны дзень — стары і абрыдлы.

І прачынаюцца ў цемры гарадскія нетры —
Жыццё стаіць чыёсьці над абрывам...
А круглы месяц у час прыплываў
Цалуе пляжаў сонных петлі.

Таўрыда спіць. І шчыра наваколле
Ляжыць у кіпарысах і таполях.
Спынілася гісторыі кабыла

І патэнцыяльны скамянелі таямніцы.
Мяне чужына смуткам накарміла,
Бо чалавеку так цяжка спыніцца.

## *12.*

А чалавеку так цяжка спыніцца
У вертыкалі — гарызанталі,
Менш штораз часу, звужаюцца далі,
Блізка пяску, здалёк ад крыніцы.

А я хацеў бы шчэ жыццём стаміцца,
Аб'ехаць свет, заглянуць у музей — Італію
І множыць дні з жанчынаю каханай,
Бо да жыцця ў адносінах я быў патрыцый.

Я мушу быць, хоць мяне не будзе
Сярод жывых — жывы і жыццядайны.
Няхай гавораць ўсе аб восьмым цудзе,

Што зможам смерць і найзвычайней
Жыць пакуль не збрыдне... Што за навіна?
Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна.

## 13.

Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна...
Праклятыя межы! Чужы я — вядома.
Дык добра усюды — найлепш аднак дома,
Удвое, прыйшоўшы з далёкай чужыны.

Як птушкі у вырай, так мы ў айчыну,
У падляшскія пушчы, у нараўскі гоман,
У песні дзяцінства, у рукі матчыны —
Нагнуцца, даткнуцца, напіцца, успомніць.

У хаце прасторна, хоць хата і цесна,
І сцены, як годы, пакрыты трывогай,
З іконаў сцякаюць жалобныя песні.

Нам нельга у часе бацькоўскім спыніцца,
Нам ў нову краіну адкрыта дарога,
Хоць косцю у горле стае заграніца.

## 14.

Косцю ў горле стае заграніца,
Як позняя восень і запах атавы.
Прыдзе няпрошана, зловіць, атравіць
Гора гарою і шчасця крыніцай.

Трэба было мне там нарадзіцца,
Дзе птушкі і вецер ці песняў актавы,
Дзе ўволю свабоды можна напіцца
І плачу — сур'ёзна, і смеху — напраўду.

І зноў дома я, і б'е крыніца
Цяпер замежных успамінаў,
І днём і ноччу мора сніцца.

Як быццам там сябе ўсяго пакінуў.
Ох, як звярына цягне заграніца —
Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына.

### 15 (*магістральны*).

Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына —
Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды,
На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу,
Але бацькаўшчыны згэтуль ўбачыць
немагчыма.

І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць —
Ён думкамі на захад усё адходзіць
І мілай Польшчы бярозавы водар
Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну.

Па яйлах свабодныя гойсаюць ветры,
Ім усё роўна, дзе Крым, дзе айчына,
Ці спаць на Рысах, ці спаць на Ай-Петры,

А чалавеку так цяжка спыніцца!
Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна,
Косцю у горле стае заграніца.

## ЗМЕСТ

# ПАВЕРЫЎШЫ Ў ПАЭЗІІ КРЫЛО

## СВЯТАЯ СТУДНЯ

(Вянок санетаў)

